**№ 42.** Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

**Беларуская Віленская часопісь**
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

**№ 42** (134). Год II. Вільня, 25 мая 1917 г. Цэна **5** фэн. (**3** кап.).

## Расея і саюзьнікі.

### 24 мая.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пры Вітчэці і наабапол Скарп—востры агонь да ночы. На поўдні ад дарогі Камбрэ-Бапом і пры С. Кантэн агонь так сама крапчэў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Шмэн дэ Дам, Брэ і Краонэлль пасьля палудня артылерыйская бітва дайшла вялікай сілы. Перад змерканьнем французы атакавалі на заходзі ад хутара Фруамон і каля млына Воклер. У абодвых месцох яны са стратамі адбіты. Пры зімовай гарэ наш агонь не даў атацы развінуцца. У Шампані між Норуа і далінай Сюіпп крапчэў у вечары агонь.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскаго*: У лесі Апрэмон узяты 28 палонных і 3 кулемёты.

---

Учора збіты ў ворагоў 10 самалётаў і 1 лятучы шар. Шэфэр збіў сваіх 28-го і 29-го ворагоў, Фосс—свайго 29-го.

21 і 22 мая англічане і французы утрацілі 5 самалётаў.

**Усходні тэатр:**

У некалькіх мейсцох фронту баевая чыннасць крапчэла. На ўсходзі ад Туккума расейскіе разведчыкі адагнаны назад.

---

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг вестак с Пецярбурга, міністэр заграничных спраў, Тэрэшчэнко, адбыў доўгую нараду с пасламі саюзьнікоў. Нарада была вельмі бурная. Тэрэшчэнко вылажыў палітычные прынцыпы расейскай рэволюцыйнай дэмократіі і падаў плян практычнаго правядзеньня міра без аннэксій, вымагаючы перэгляду саюзьніцкіх умоў. Праз два дні пасьля гэтаго паслы заявілі міністру, што **заходніе дзержавы згаджаюцца сазваць конфэрэнцію саюзьнікоў**, каб устанавіць будучую ролю Расеі у агульнай вайне. Было заяўлено, што **Англія ня можэ прызнаць формулу міра без аннэксій** годнай дзеля агульнай палітыкі. Формула гэта выплывае толькі з жаданьня Расеі дайсьці ўразжэ міра.

ПЕЦЯРБУРГ. Рада раб. і салд большасьцю 340 проці 46 галасоў зажадала, каб тымчасовы урад падаў ей **сэкрэтные умовы між Расеей і саюзьнікамі.**

ШТОКГОЛЬМ. У Кіеві адбыўся з'езд палудзенна-расейскіх прэдстаўнікоў рады раб. і салд. Як даносяць, галава дэлегаціі салдатоў сказаў пры гэтым даслоўна:

„Таварышы з акопаў падаюць вам сваю руку. Адважна ўміралі яны і ешчэ ўміраюць за бацькаўшчыну. Але ўсе **жадаюць міра** і ўмаляюць вас палажыць канец сусьветнай бойні".

Гэтае жаданьне міра з'езд, на якім былі прэдстаўнікі ўсіх вайсковых часьцей арміі Брусілова, вітаў оплескамі, трываўшымі некольки мінут.

ПАРЫЖ. Генэралы Романовскій і Архангельскій падзеляць між сабой справы упраўленьня генэральным штабам гэтак: Романовскій будзе заведываць стратэгічными справамі, а Архангельскій будзе пастаянным вышэйшым райчым ваеннаго міністра.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Керэнскій выехаў сягоньня агледаць фронты. Яго памочнік, Якубовіч, заявіў радзе раб. і салд., што расейскім салдатам даюцца правы, якіх не мае ні адна армія сьвету.

**З'езд кадэтоў** выбраў Мілюкова за маршалка. Мілюков прызываў сабраўшыхся цьвёрда паддзержываць новы урад.

**З'езд селян** прызнаў патрэбным устанавіць правільны раздзел прадуктоў па ўсей старане.

**Агульная нарада трудавікоў, соц.-дэм. і „меньшэвікоў"** прыняла рэзолюцію, трэбуючы павялічэньня баевой сілы арміі, бо аслабленьне яе ня ёсць способ замірэньня.

**Міністэр працы** соцыаліст Скобелев за свайго таварыша назначыў **работніка Гвоздёва**, члена рады раб. і салд.

АПАРАНДА. Пецярбурскі саюз інжэнероў апавешчае, што **вытворчасць расейскай прамышленнасьці паменшала на 25%.** Прычыны гэтаго: паменшэньне рабочаго дня і агульнае безладзьдзе.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). У Атлянтыцкім акіані ізноў затоплены 23.500 тонн.

ВЕНА. На плоскагорыі Карст ад поўдня развіваюцца **пешые бітвы**

БУДАПЭШТ (Corr. buro). Яго Вялічэство адмовіўся зацьвярдзіць прэдложэны урадам закон аб перамені выбарнаго права. Граф Тіша падаўся у адстаўку, каторая прынята.

---

*Вільня, 25 мая 1917 г.*

У нашы дэмократычные часы массы працоўнаго народу здабываюць усё вялікшую вагу у жыцьці грамадзянств. Асабліва яркі прыклад гэтаго дала Расея, каторая так раптоўна, так неспадзевана ад самадзержавія перэйшла зразу да дэмократычнай рэспублікі, якая, бязспорна, і утрымаецца.

«Новае жыцьцё твораць новые людзі». Гэта — старая праўда. Вось жэ і ў Расеі новы лад заводзяць тые людзі, каторые дагэтуль ня мелі зусім доступу да гасударственаго жыцьця.

Новые людзі будуць тварыць новае жыцьцё і ў нашай Бацькаўшчыне—Беларусі. Хто-ж яны будуць? Скуль возьмуцца?

Можэм с поўнай верай сказаць, што песьня старых «гаспадароў» нашаго Краю скора будзе спета. Іх моц, аснованая на зямельных абшарах і прывілеях ад царскаго правіцельства, каторае само шукало апоры у шляхты,— счэзьне, як пры новым ладзе да творчай гасударственай працы будзе прызван увесь народ — усе станы і клясы. І дэмократія павінна будзе выдаць с-паміж сябе патрэбных людзей, здольных вясьці грамадзкую гаспадарку.

Ад часу скасаваньня прыгону ўжо вырасло на вёсцы не адно пакаленьне вольных людзей. Вырастае і народная інтэлігенція: бацька гараў поле, а сын ужо скончыў унівэрсытэт і стаў за доктара, інжэнера, адваката, прафэсара і т. п. А поруч с тым у штодзенным змаганьні за хлеб выбіваюцца на верх новые, найбольш інтэлігентные сілы с-паміж местовых работнікоў, рамесьнікоў і іншых людзей працы. І так усё болей узрастае чысло рук, каторые могуць узяць і возмуць кіраўніцтво сваім жыцьцём.

Час вайны, каторая зусім разбіла наладжэнае праз доўгіе гады жыцьцё народаў, гэта—знаменітая школа грамадзкай працы. Мы, здаецца, маглі даволі добра перэканацца, што ўсю надзею павінны ускладаць на самых сябе. І вось на нашых вачах с-паміж многатысячных грамад народу выступаюць напярод людзі, якіе бяруцца за чынную грамадзкую працу, бачучы, што за іх ніхто рабіць ня будзе.

Вось, гэтые новые людзі і будуць класьці фундамэнт пад новы лад у нашым Краю. Між імі шмат хто выступае з вялікай асьцярожнасьцю, быцым баючыся, што старые нашы «паны» скрыва паглядзяць на новых грамадзкіх работнікоў, што іх простая адзежа і мазалістые рукі вызавуць усьмешку на вуснах «вяльможных».... Дык гэтаго пара пазбыцца. Старые пагляды на «вышэйшасць» аднаго стану над другім аджылі ўжо свой век, і калі на новых байцоў за народную долю і права «вяльможные» паглядаюць яшчэ зверху ўніз, дык тым горш для апошніх: яны сваімі паступкамі паказваюць, што ня могуць дапасавацца да новых вымог жыцьця, што для іх ужо мейсца пры новым ладзе ня будзе!

---

## У Вільні і ваколіцах.

× **«На Антокалі».** Напамінаем нашым чытачом, што ў гэту нядзелю, 27 мая, ў Цырку на Лукішках будзе пастаўлена п'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі «На Антокалі».

Пачатак а 6 гадз.

× **Палажэньне каміняроў.** Гэтымі днямі адбылася нарада саюза віленскіх каміняроў аб спосабах аблягчэньня іх незвычайна цяжкаго палажэньня. Са справоздачы ураду выявілося, што асабліва цяжкі для каміняроў быў апошні год. Пры страшэннай дарагоўлі жыцьця іх заработная плата ня толькі не узрасла, а, наадварот, паменшала с прычыны таго, што многа дамаўласьнікоў, даваўшых ім работу, чыста згалелі. Дый, наагул, работы шмат паменшало, — асабліва ў каміняроў жыдоў.

Мы звертаем увагу на гэту справу.

× **Перастройка жыдоўскай обшчыны.** Нідаўна ў нас была надрукована заметка аб жыдоўскім мітынгу ў салі Крэйнгеля, на каторым было высказано недавер'е «Цэнтральнаму Камітэту жыдоўскіх дабрачынных установ места Вільні». Пасьля гэтаго Камітэт быў перастроен: апрыч даўнейшых 13 членоў да яго ўвайшлі яшчэ 16 новых — прэдстаўнікі розных дабрачынных, экономічных і культурных організацій, у тым ліку 4 ад жыдоўскіх прафэсыональных саюзоў.

Найбліжэйшая задача новаго Камітэту — перастроіць і упраўленьне жыдоўскай обшчыны ў Вільні на аснові выбароў заступнікоў усіх слаёў жыдоўскаго насяленьня Вільні.

× **Садзіце капусту!**

× **Ахвяры пакінутых дамоў.** Пад руінамі дамоў у тым тыдні пагібло ешчэ 6 асоб, прабаваўшых браць «дармовые дровы» с пустых дамоў. Апрыч таго некольки асоб ранены.

